

# Наша Слова

Культурна-асветніцкая штотыднёвая беларуская газета

(Выходзіць з сакавіка 1990 г.) № 2 (318) 9 — 15 студзеня 1997 г. Кошт -- 1500 рублёў



І ЗА ЦЕМРАЙ ПРЫЙДЗЕ СВЯТЛО Стар.2.

ЗНОЎ П'ЯНКА ДАВЯЛА ДА БЯДЫ Стар.3.

МІКОЛА ЕРМАЛОВІЧ: ТАМУ, ХТО ПРАЧНУЎСЯ Стар.3.

TV - праграма Стар.7.


## ПОСТУП ТЫДНЯ



○ **У Палаце прадстаўнікоў новастворанага Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь адбылася сустрэча** кіраўніцтва Міністэрства замежных спраў краіны і членамі парламенцкай камісіі па міжнародных справах з краінамі-ўдзельніцамі СНД. Практычна ўсе ўдзельнікі сустрэчы за круглым парламенцкім сталом гаварылі аб тым, што кіраўнікамі дзяржавы павінна праводзіцца збалансаваная і зладжаная палітыка, накіраваная на захаванне беларускай дзяржаўнасці і суверэнітэту. Добра, каб да такой гаворкі былі і адпаведныя справы!

○ ***Той жа палатай прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь прынятая пастанова*** *"Аб выбранні Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры, навуцы і навукова-тэхнічнаму прагрэсу". Згодна пастановы старшынём Камісіі стаў У. Плецюхоў, членамі — В. Драко, Р. Ігнацішчаў, В. Самусева, В. Шаршуноў, М. Шаўцоў. Імёны гэтых зусім невядомыя ў нашай краіне. Да ўсяго ў прыхільнасцях да беларушчыны ніхто з іх не заўважаны.*

○ **Згодна з праектам галоўнага фінансавага закона нашай краіны на 1997 год** на патрэбы беларускага войска будзе выдзелена 2,7 трыльёна рублёў. Але ці знойдзецца належная сума, каб і культура адчула, што яна патрэбная нашай дзяржаве?

○ ***З 1 чэрвеня 1997 года*** *для выезду за мяжу грамадзяне нашай краіны павінны будуць уклеіць у пашпарт спецыяльную марку.*

○ **У друку з'явіўся указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь "Аб прысуджэнні Дзяржаўных прэмій Рэспублікі Беларусь 1996 года".** У галіне літаратуры лаўрэатамі сталі, як мы ўжо паведамлялі, пісьменнікі Генрых Далідовіч, Уладзімір Анісковіч, Уладзімір Карызна, Валянцін Лукша. У галіне мастацтва лаўрэатамі сталі Міхаіл Фінберг, Валянцін Елізар'еў, Андрэй Мдзівані, Валянціна Гаявая, Георгій Марчук і іншыя. Віншуем і зычым далейшых поспехаў!

○ ***Бюро Цэнтральнага Камітэта Беларускага Саюза Моладзі на сваім апошнім пасяджэнні разгледзела пытанне аб прэміях Беларускага Саюза Моладзі 1997 года.*** *Прынята рашэнне прысудзіць прэміі ў наступных намінацыях: за плённую работу ў сферы рэалізацыі інтарэсаў і абароны правоў моладзі; літаратуры і журналістыкі; духоўнага і патрыятычнага выхавання моладзі; міласэрнасці; педагагічнай дзейнасці; за выхаванне гарманічна развітай асобы; навукі і тэхнікі; культуры і спорту. Узрост на атрыманне прэміі лаўрэата не павінен перавышаць 33 гады.*

○ **У друку з'явілася інфармацыя,** што хто не паспеў аформіць падпіску на рэспубліканскую перыёдыку, можа гэта зрабіць і цяпер у... Ашчадбанку. Там ёсць каталогі. Так што, шаноўныя чытачы, калі вы яшчэ не падпісаліся на "Наша слова", можаце гэта зрабіць нават сёння.

**Падрыхтаваў В. Ш.**

# Форум няўрадавых арганізацый

З 19 па 21 снежня 1996 года ў будынку сталічнага культурна-асветніцкага цэнтра адбыліся пасяджэнні арганізаванага цэнтрам "Супольнасьць" форуму лідэраў няўрадавых арганізацыяў Беларусі і краінаў Цэнтральна-Усходняй Еўропы.

Да ўдзелу ў ім былі запрошаныя прадстаўнікі мноства няўрадавых арганізацыяў і выданняў Беларусі: Цэнтр сацыяльных ініцыятываў, Цэнтр еўрапейскіх доследаў і культурных ініцыятываў "Эўрафорум", Цэнтр "Супольнасьць", Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны, Міжнародная асацыяцыя гуманітарнага супрацоўніцтва, Інстытут прыватызацыі і мэнэджмэнту, Гуманітарны фонд "Наша Ніва", менская гарадская асацыяцыя "Свабоднае Слова", Грамадскі навукова-даследчы цэнтр "Беларуская перспектыва", "Грамадзянскі форум", грамадска-культурнае аб'яднанне татараў-мусульманаў "Аль-Кітаб", Цэнтр стратэгічных ініцыятываў "Усход-Захад", Асацыяцыя "Зямельная рэформа", Фонд падтрымкі дэмакратычных рэформаў імя Льва Сапегі, Беларуская асацыяцыя журналістаў, Таварыства беларускай школы, Рух "Наш дом – Беларусь", Фонд "Адкрытае грамадства", Беларускі Хельсінкскі камітэт, Фонд падтрымкі парламентарызму і дэмакратыі, Цэнтр "Адукатар", Аб'яднанне беларускіх скаўтаў, Фонд "Заканадаўчая ініцыятыва", "Аб'яднаны шлях – Беларусь", часопіс "Форум".

Рэгіёны прадстаўлялі берасцейскі "Стары Горад", "Сьвятліца" з Баранавічаў, віцебскія абласное краязнаўчае аб'яднанне ды Лінгвістычна-краязнаўчы клуб "Акуляры", Культурна-асветніцкі цэнтр імя Язэпа Драздовіча з Германавічаў Шаркаўшчынскага раёна Віцебшчыны, гомельскія "Талака", Задзіночанне беларускіх студэнтаў, а таксама Беларускі гуманітарны адукацыйна-культурны цэнтр, гарадзенскія Таварыства беларускай вышэйшай школы, культурна-асветніцкі фонд "Бацькаўшчына", Задзіночанне беларускіх студэнтаў, Асацыяцыя "ВІТ", Беларускі маладзёвы дэмакратычны альянс імя Вітаўта Вялікага, рэгіянальная рада маладзёвых арганізацыяў "23", пінская "Плошча", магілёўскі грамадзянскі камітэт "Дзеці Чарнобыля", маладзечанскія Цэнтр грамадскіх ініцыятываў і Беларускі дэмакратычны саюз моладзі.

Акрамя іх, прысутнічалі прадстаўнікі замежных арганізацыяў і фундацыяў у Беларусі: Беларускага Фонду Сораса, PHARE-TACIS, амбасады Вялікай Брытаніі, бюро фонду Эбэрта, прадстаўніцтва ААН, Інфармацыйнай службы амбасады ЗША, Фонду "Еўразія".

Беларускімі ўдзельнікамі форуму былі абмеркаваныя ўмовы існавання і спосабы дзейнасці няўрадавых арганізацыяў у сённяшняй Беларусі, а таксама магчымы ўплыў гэтых арганізацыяў на грамадства з мэтаю яго стабілізацыі. Удзельнікамі форуму быў прыняты зварот да міжнароднай супольнасці, тэкст якога пададзены ніжэй.

### ЗВАРОТ

Мы, прадстаўнікі больш як 40 грамадскіх непрыбытковых арганізацыяў Беларусі, прааналізаваўшы становішча ў "трэцім сектары" (сферы грамадскіх ініцыятываў) нашай краіны, прыйшлі да высноваў, якія жадаем данесці да грамадскасці іншых краінаў, да урадаў і міжнародных арганізацыяў.

Пануючы ў Беларусі рэжым імкнецца да манапалізацыі ўсіх сфераў грамадскага, палітычнага, эканамічнага жыцця, ідэалогіі, інфармацыйнай прасторы. Адбываюцца рэпрэсіі супраць тых, хто адстойвае законнасць і дэмакратычныя каштоўнасці, супраць незалежных сродкаў інфармацыі. Улады спрабуюць падпарадкаваць сабе сектар грамадскіх ініцыятываў. Ствараюцца ўрадавія "парасонавыя" структуры для нагляду за грамадскімі арганізацыямі. Адбываецца дыскрымінацыя грамадскіх арганізацыяў паводле ступені лаяльнасці да ўладнага рэжыму.

Аднак працэс структуравання грамадзянскай супольнасці, стварэння грамадскага сектара працягваецца, нягледзячы на перашкоды, у тым ліку матэрыяльнага характару. Пакольку ў краіне кансервуецца планава-размеркавальная эканоміка, прыватны бізнэс дыскрымінуецца і амаль няздольны спансараваць грамадскія ініцыятывы. Тых прадстаўніцтваў заходніх фондаў, якія размешчаныя ў Беларусі і даюць магчымасць непасрэднага атрымання дапамогі, недастаткова.

У выніку ідэалагічнай манапалізацыі ў Беларусі адбываецца раскол грамадства, нішчацца парасткі дэмакратычнай свядомасці. Дзяржаўная ідэалогія ваяўнічага папуліцкага панславізму абумовіла фактычнае нераўнапраўе моўных і канфесійных групаў. Так, дыскрымінуецца беларускамоўнае насельніцтва, якое ў значнай ступені пазбаўлена магчымасці атрымліваць сярэднюю і вышэйшую адукацыю на роднай мове. Робяцца спробы супрацьставіць адна адной розныя канфесіі.

У сувязі з выкладзеным лічым неабходным заявіць наступнае:

1. Форум лідэраў няўрадавых арганізацыяў Беларусі пастанавіў склікаць Асамблею дэмакратычных грамадскіх арганізацыяў краіны. Мэта Асамблеі — сфармулявць супольныя інтарэсы "трэцяга сектара" Беларусі і скаардынаваць дзейнасць дзеля іх абароны. Асамблея адбудзецца ў канцы студзеня — пачатку лютага 1997 г. у Менску.

2. Выклікае занепакоенасць тое, што значныя матэрыяльныя сродкі, якія накіроўваюцца дзяржаўным структурам Беларусі па лініі міжнародных праграмаў, могуць быць выкарыстаныя ў антыдэмакратычных мэтах. Аднак мы заклікаем не толькі не спыняць, але, наадварот, пашырыць падтрымку няўрадавых грамадскіх ініцыятываў у Беларусі.

3. Мэтазгодным было б прызначэнне канкрэтных асобаў або ўтварэнне аддзелаў, якія спецыяльна займаліся б пытаннем грамадскіх ініцыятываў у Беларусі, у адпаведных міжнародных арганізацыях.

4. Мэтазгодна, каб Беларусь апынулася ў непасрэднай сферы дзейнасці міжнародных фундацыяў, якія пакуль працуюць у краінах Цэнтральнай Еўропы, але не ў Беларусі. Значную дапамогу грамадскаму сектару Беларусі магла б даць праграма мікрагрантаў TACIS.

5. Спецыфіка беларускай сітуацыі ў тым, што грамадскія адукацыйна-культурныя ініцыятывы, звязаныя з ратаваннем нацыянальнай культуры ад ідэалагічнага знішчэння, з'яўляюцца па сутнасці праваабарончымі.

6. Дзеля атрымання інфармацыі з першых вуснаў было б мэтазгодна запрасіць прадстаўнікоў беларускіх няўрадавых арганізацыяў у адпаведныя структуры Еўрапейскага Звязу і іншых міжнародных арганізацыяў.

7. Дзеля азнаямлення з сітуацыяй у Беларусі ў сферы грамадскага сектара варта сістэматычна накіроўваць у Беларусь паўнамоцных прадстаўнікоў Еўрапейскай камісіі, міжнародных арганізацыяў і фундацыяў.

**Падрыхтаваў У.ПАНАДА.**

*Але!* *Але!*

# "Пяцідзёнка" здароўя не прыбавіць. Ведаў таксама

Некаторыя пачынаюць успамінаць, хто першы з вышэйшых уладатрымальнікаў у Беларусі падкінуў прапанову перавесці сярэднюю школу на пяцідзённы рэжым працы. Адны кажуць — міністр У. Стражаў, іншыя — ажно сам Прэзідэнт А. Лукашэнка. Менскі настаўнік-ветэран Іван Якімавіч Ганчарык успамінае, што падобную ідэю спрабавалі некалі "запусціць" у часы СССР ці не з Масквы. Але ў тыя часы ў адпаведным аддзеле ЦК КПБ знайшліся дасведчаныя людзі, якія хутка пераканалі П. Машэрава, што падобнае не на карысць адукаванасці падрастаючага пакалення беларусаў ды і здароўя дзецям не прыбавіць, бо далёка ж не ўсіх бацькі павязуць працаваць за горад на садова-агародных сотках, а ў вёсцы і так малым сельскагаспадарчай практыкі хапае.

— Як гэта можа прыбавіць здароўя, — пагаджаецца са сваім мужам-матэматыкам Галіна Арсеннеўна Ганчарык, якая навучала мовам і літаратуры некалькі пакаленняў школьнікаў (дарэчы, вывучку ў яе прайшлі такія вядомыя сёння беларускія літаратары, як Георгій Марчук і Міхась Шэлехаў), — як такое ўвогуле неяк становіча можа адбіцца на навучальным працэсе, калі ў школе ўзрасце і без таго вялікае нервовае напружанне, калі вучэбную праграму давядзецца ці скарачаць "па жывому", ці рабіць больш канцэнтраванай? У пачатковых класах і то гэта даволі рызыкоўна. Цяпер жа суботнія заняткі ў асноўным робяць крыху "разгрузачнымі", з элементамі забавы, гульні. У той жа час настаўнік прасцей дапамагаць вучням, якія чамусьці недабралі праграмных ведаў па нейкіх дысцыплінах.

Слушна? Безумоўна. І гэта супадае з меркаваннямі многіх педагогаў, з якімі давялося гутарыць. Іншая справа, што калі рабіць сярод іх "рэферэндум", ды яшчэ з адкрытым галасаваннем, частка настаўніцтва можа падпарадкавацца пажаданням вышэйшага начальства. Страх быць звольненым за іншадумства цяпер запанаваў паўсюдна, і настаўнікі тут не выключэнне. Можа "не аказацца" і легальных цвёрдых апанентаў у самім Міністэрстве народнай адукацыі, калі ініцыятыва сапраўды зыходзіць ад шэфа — У. Стражава. А калі сапраўды пажадаў сам Прэзідэнт А. Лукашэнка: у такім разе ад чыноўнікаў-адукатараў будзе чуваць толькі адно: "Геніяльнае ўказанне будзе выканана!". Бо, здаецца, тыя, хто асмельваўся мець уласнае меркаванне ды адстойваць яго, цяпер працуюць у іншых месцах.

А тым часам супраць уводу "пяцідзёнкі" пачаўся збор подпісаў бацькоў менскіх школьнікаў. Цікава, што тут ужо няма падзелу на прыхільнікаў расійска- ці беларускамоўя. Агульны непакой пяднаў усіх. Рух перакідваецца і ў вобласці. Адзін з важкіх аргументаў супраць "пяцідзёнкі" — той, пра які згадана вышэй: вось так, адным махам згубіць ажно шостую частку вучэбнага працэсу, які напрацоўваўся дзесяцігоддзямі, — не жартачкі. У першую чаргу скарачэнне закране гуманітарныя дысцыпліны і мовы. Само сабой, беларускай, як прынята, "не пашанцуе" больш за ўсіх. Але не пойдзе тое і на карысць замежным мовам — іх "галопам" не засвоіш, працэс тонкі.

Ёсць і яшчэ адзін вельмі важкі аспект праблемы, якая ўзнікае, здаецца, ну проста з нічога: вольная субота многім дзецям пойдзе зусім не для ўзмацнення кантактаў з бацькамі. Шмат якіх школьнікаў прыме ў свае "абдымкі" крыміналізаваная вуліца, хуліганскія тусоўкі ў цёмных пад'ездах і на лесвічных пляцоўках. Дадасца працы міліцыі, наркалагічным службам. А напярэдзе ўзнікне дадатковы клопат пра пашырэнне "пасадачных месцаў" у турмах.

Бацькі вельмі ўстрывожаныя магчымымі наступствамі як след сацыяльна не пралічаных эксперыментаў са школьнай праграмай. Людзі тэлефануюць у рэдакцыю, просяць парады, просяць, каб газета напісала пра іх занепакоенасць — раптам гэта прачытаюць у Міністэрстве народнай адукацыі і сур'ёзна задумаюцца над тым, што яны збіраюцца рабіць. У сваю чаргу рэдакцыя раіць бацькам незалежна ад моўных схільнасцяў падтрымліваць больш цесную сувязь з суполкамі Таварыства беларускай школы.

**Ул. АСІНАВЕЦ.**

## Якім мусіць быць Таварыства?

*У 48-м нумары "Нашага слова" за мінулы год быў змешчаны Зварот Сакратарыята Таварыства беларускай мовы. Напярэдадні пятага з'езда ТБМ сябры сакратарыята звярнуліся да ўсіх сяброў арганізацыі з прапановай выказаць свае меркаванні аб сённяшнім стане Таварыства і захадах, патрэбных дзеля яго паляпшэння. Прапануем увазе нашых чытачоў два з атрыманых рэдакцыяй лістоў.*

Дазвольце выказаць мае меркаванні наконт ТБМ і найперш аб яго структурнай пабудове.

Пачну з ніжэйшага, з падмурка, на якім павінна грунтавацца ўся праца. Гэта раённае звяно. Узначальваць яго павінен каардынатар, вядома ж, не на грамадскіх стасунках, афіцыйна атрымліваючы заробак (аклад). Ён і павінен арганізаваць суполкі ў школах, калгасах і іншых прадпрыемствах на тэрыторыі раёна. У гарадах, у залежнасці ад памераў, таксама павінна быць раённая структура. Абласная арганізацыя не патрэбная. Раёны непасрэдна падпарадкоўваюцца рэспубліканскаму камітэту ТБМ. Колькасць супрацоўнікаў у сталіцы павінна быць дастатковай для арганізаванай работы ў краіне.

Дзе ўзяць грошы? Узносы і ахвяраванні, камерцыйная дзейнасць.

Без раённага каардынатара на пастаяннай працы не можа быць дзеяздольнага Таварыства беларускай мовы.

Сапраўдных знаўцаў мовы і адначасова здольных арганізатараў пакуль не відаць у сельскіх раёнах, але калі яны і ёсць, то іх такая мізэрная колькасць, што работа амаль не вядзецца. Іх трэба адшукаць і ўзварушыць.

Русіфікатары з "пятай калоны" і тутэйшыя манкурты вынішчаюць падмурак дзяржавы — яе родную мову і культуру. Яшчэ крыху — і знікне такая мілая мова і культура. Чужынцы нас не пашкадуюць. Часу на роздум не засталося.

Я прапаную магутнаму культурнаму асяроддзю сталіцы і абласных цэнтраў — гэта найперш пісьменнікі, выкладчыкі вышэйшых навучальных устаноў, артысты ды іншыя работнікі, якія маюць дачыненне да культуры, неадкладна выехаць у кожны раён і ажыццявіць барацьбу за выжыванне краіны, што ворагі нашыя, як я бачу, бязлітасныя.

Узначаліць гэтую работу павінны вядомыя ў краіне пісьменнікі, палітычныя дзеячы, навукоўцы. І смела за працу!

Я быў бы Вам бясконца ўдзячны, калі б гэтыя меркаванні былі пачутыя.

З павагай і пажаданнем здароўя

**СУНАРЭБСКІ Вячаслаў Іванавіч.**

вёска Русіны Баранавіцкага раёна.

Колькі часу таму, у адным з нумароў газеты была інфармацыя аб справах у ТБМ і прапанова дасылаць свае меркаванні аб магчымым рэфармаванні гэтай структуры.

Спачатку я скептычна паставіўся да гэтай задумкі, бо, як звычайна, што не прапаноўвалі б рабіць "знізу", робіцца так, як патрэбна "зверху",

Але ж калі ёсць на тое патрэба, мушу выказаць колькі сваіх думак, што да акрэсленага пытання. Так сказаць, думкі шэраговага сябра арганізацыі.

Цікавая гэта "штука" ТБМ. Як яна (арганізацыя) існуе, аднаму Богу вядома. Створаная яшчэ ў часы Савецкага Саюза, так бы мовіць, каб партыя магла кантраляваць адраджэнскі рух, і зараз існуе па правілах, напісаных у ЦКоўскіх кабінетах. Таму і структура такая раздзьмутая і недзеяздольная. Але ж сталася так, што адраджэнцы самі сталі кантраляваць дзейнасць ТБМ, уліўшыся ў яе шэрагі.

На той час існавала пэўная падтрымка дзяржавы гэтага руху, і мястэчковыя суполкі былі створаныя па ўсёй Беларусі. Даходзіла, прабачце, да смешнага, што часам кіраўнікі аддзелаў адукацыі гарвыканкамаў былі сябрамі, а то і кіраўнікамі мясцовых суполак ТБМ. Я не кажу ўжо пра бібліятэкарак, якія "па доўгу службы" мусілі быць у арганізацыі. Дзе гэта ўсё зараз?

Прабачце, уся гэтая структура рассыпалася, як з'явіліся першыя сімптомы "нелюбові дзяржавы".

У арганізацыі зараз засталіся сапраўды "завёрнутыя" на гэтай справе людзі. Няшмат, але ж людзі ёсць. Але і гэтыя людзі, будзьце ўпэўненыя, разбягуцца, калі не змяніць структуру арганізацыі і не пачаць нешта рабіць. Людзі разбягуцца ад бяздзейнасці, ад асэнсавання таго, што ад іх нічога не залежыць. Гэта ж смешна, за колькі апошніх гадоў адзінай акцыяй ТБМ ёсць распачаты збор подпісаў за права адукацыі на беларускай мове.

А што рабілі людзі ды і што будуць рабіць пасля гэтага?

Даўно вядома, што найлепш аб'ядноўвае і натхняе на дзеянні людзей нейкія сумесныя акцыі.

Што ж рабіць?

У дзяржаве ёсць шмат "здаровых" людзей, якіх варта неяк аб'ядналь і разам рабіць нейкія справы. Як то наладжванне летнікаў для дзетак, фэстаў і г. д. Чаму б гэта не рабіць пад дахам ТБМ.

Што гэтаму перашкаджае? Закасцянелыя структуры і людзі, што прывыклі перакладваць паперкі з месца на месца, абы нічога не рабіць. Гэта ж усё лёгка ламаецца. Калі не хочуць рабіць яны, за іх зробяць іншыя, хай толькі не пярэчаць. Выйсце з тупіка падказала Аліцыя Шыбіцкая ў інтэрв'ю вашай газеце — краіна мае патрэбу ў новых лідэрах і новых арганізацыях, незаангажаваных на мінулым. І яны ўжо ёсць!

Сёння настае іншая эпоха!

**P. S.** Ліст, відаць, злосны, але абгрунтаваны. ТБМ патрабуе зменаў!

Усяго самага найлепшага!

**Ігнат ХАРЭЎСКІ,**

г. Бабруйск.

*Рэдакцыя "Нашага слова" і Сакратарыят ТБМ чакаюць працягу дыскусіі.*

Культурна-асветніцкая штотыднёвая беларуская газета НАША СЛОВА

Our Word
Unser Wort
Naša Słowa

Падпісны індэкс 63865

ЗАСНАВАЛЬНІК: Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны

Газета зарэгістраваная ў Дзяржаўным камітэце Рэспублікі Беларусь па друку.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 83.

Рэдакцыйная калегія:
Эрнэст ЯЛУГІН — галоўны рэдактар

Лявон БАРШЧЭЎСКІ,
Янка БРЫЛЬ,
Анатоль БУТЭВІЧ,
Радзім ГАРЭЦКІ,
Ніл ГІЛЕВІЧ,
Вольга КУЗЬМІЧ,
Уладзімір ЛАМЕКА,
Уладзімір ПАНАДА,
Зміцер САНЬКО,
Здзіслаў СІЦЬКА,
Алег ТРУСАЎ,
Генадзь ЦЫХУН.
Адказны сакратар — Уладзімір АНІСКОВІЧ.
Кампутарны дызайн — Ірына ДЗІВІНА.
Кампутарны набор: Тамара АЎСЯННІКАВА, Вера ВАРАНЦОВА.
Тэхнічны рэдактар Валянціна КАРАТКЕВІЧ.
Карэктары: Жанна КАЗЛОЎСКАЯ, Генадзь КАЖАМЯКІН.

Адрас рэдакцыі: 220029, г. Менск, вул. Чычэрына, 1, 3-і паверх.
Тэлефон: 233-17-83.

Кампутарнае забеспячэнне пры падтрымцы Беларускага аддзялення Фонду Сораса.

*Надзённае*

## Папрацуем — і за цемрай прыйдзе святло

Калядная зорка заўсёды дае надзею, што за цемрай прыйдзе святло. Нягледзячы ні на што, душа беларуса застаецца жывой. І верыць у сваю вечнасць. Душа верыць, што кволыя парасткі Адраджэння яшчэ не знішчаныя брудным ботам так званага панславянізма. І надзея на лепшае знікне толькі з беларусамі. Пакуль ёсць прыхільнікі, носьбіты роднай мовы, пакуль вельмі далёка не ўсе не здрадзілі за трыццаць срэбранікаў ("надоело жить бедно"...).

На жаль, адносна спрыяльны час для развіцця структур ТБМ, умацавання матэрыяльнай базы быў страчаны. Страчаны на дыскусіі аб рэфармаванні правапісу, на высвятленне ўзаемін — хто лепшы патрыёт і беларус. Як звычайныя саўкі, мы спадзяваліся на "авось". Жадалі як лепш, а атрымалася як заўсёды. Вельмі спадзяваліся, што Вярхоўны Савет 12-га склікання не прызначыць рэферэндум аб двухмоў'і, што не зробіць антыбеларускі крок, але каб выцерці ногі аб патрыётаў Бацькаўшчыны, такі крок з задавальненнем быў зроблены. У выніку — ні рэформы правапісу, ні гімна, ні сімвалаў, ні парламентарызму...

Сёння дзейнічае жорсткі закон жыцця — слабы знікае, выжывае мацнейшы. Настаў час мацнейшым духам трымаць удар і весці наперад зняверaных, знясіленых татальнай прапагандай антыбеларускіх настрояў. Калі горкі вопыт параз не прыбавіць нам розуму, то прадаўжаць справу ТБМ няма сэнсу. Калі гэтымі цёмнымі калляднымі начамі кожны свядомы беларус не прыйдзе да жыццёвай неабходнасці — заўтра зрабіць для Беларусі больш, чым раней, а паслязаўтра яшчэ больш, то спадзяванні на поспех у святой справе Адраджэння амаль нулявыя.

Дзейнасць сяброў ТБМ павінна быць выключна асветніцкай, прапагандысцкай. Для нас жыццёва неабходна ўзмацніць у кожным раёне свае асветніцкія акцыі. Жадаема, каб іх стымулявалі рэспубліканскія структуры, неабавязкова матэрыяльна праз фінансаванне — зараз ва ўсіх кішэнях дзіркі, але тут зруху трэба дасягнуць. Сёння за прадпрымальнікамі самы жорсткі кантроль і амаль немагчыма знайсці мецэнатаў беларускіх спраў, тым больш цяжка прыцягваць сродкі на тэбээмаўскія рахунку. Але ў Таварыства ёсць арганізацыі-сузаснавальнікі — міністэрствы культуры, адукацыі. І пакуль яшчэ на дзяржаўным узроўні не аб'яўлены крыжовы паход на беларускую культуру, то трэба разам з гэтымі міністэрствамі супрацоўнічаць, бо да іншых ужо не падступішся. Агульныя акцыі з міністэрствамі на мясцовым узроўні праводзіць значна лягчэй. Але і пры адсутнасці рэспубліканскіх акцый магчыма атрымаць у раённых аддзелах культуры, адукацыі падтрымку, калі яшчэ не сапсаваны адносіны з іх кіраўнікамі ў час адраджэнскай эйфарыі.

Формы дзейнасці, агульныя акцыі могуць быць самыя разнастайныя. Ёсць неабходнасць сярод маладых бацькоў за 30 год, якія вучыліся па савецкіх падручніках, а "белмову" вывучалі факультатыўна, весці прапаганду культуры і гісторыі Беларусі. Дзейнасць клубаў маладой сям'і — аптымальная для гэтага форма. Зразумела, не аб беларускай культуры павінна весціся галоўная гаворка, але на кожным пасяджэнні можа вылучацца час для асветніцтва. Для гэтай справы вельмі неабходна адаптаваная літаратура, магчыма, і на расійскай мове. Пажадана, каб кошт літаратуры быў даволі танны. І першымі арганізатарамі гэтай справы маглі б быць выхавацелі дзіцячых садкоў, настаўнікі пачатковых класаў, якіх жадаема матэрыяльна заахвоціць.

Сярод настаўніцкага асяроддзя цікавай формай вяртання да беларускіх вытокаў маглі б стаць агляды беларускай песні "У песні жыве душа народа". Уявіце, колькі цудоўных песень праспявалі б, вывучылі б настаўнікі, удзельнічаючы ў гэтым святе. А які б зарад бадзёрасці, энергіі ў гэтым мітуслівым жыцці атрымалі б педагогі.

Для прапаганды роднага слова найбольш прыдатныя сустрэчы з беларускімі пісьменнікамі, бо хто найбольш зацікавіць дзіця ў роднай кнізе, як не яе стваральнік? Чаму так мала сустрэч са стваральнікамі кніг? Чаму дзесяцігоддзямі ў сельскіх школах іх не бывае? Чаму б не правесці пісьменнікам акцыю "Пісьменнікі — сельскай школе!"?

Цяпер усё складаней, але і зараз магчыма ў населеных пунктах, на прыпынках устанавіць стэнды "Роднае слова", дзе размяшчаліся б матэрыялы па культуры, гісторыі Беларусі. Нашы ж суайчыннікі ўсё менш і менш выпісваюць перыядычных выданняў.

Прапанаваць магчыма многа розных спраў для суполак ТБМ. Справа ж у тым, каб былі жадаючыя працаваць на карысць Беларусі, каб яны маглі ахвяраваць сваім часам на грамадзянскую справу. І вельмі важна, каб нашы лідэры бачылі працу шэраговых сяброў Таварыства, каб у нас былі моцныя сувязі.

**Міхась ЛАГОР.**

г. Гарадок.

*Грамадскі рух*

## БЕРАСЦЕ: стары горад

*Што надае беларускае аблічча нашым гарадам — іх назвы, архітэктура, гісторыя ці людзі, што іх насяляюць? Адказам на гэтае пытанне могуць стаць словы, пачутыя нашым карэспандэнтам ад Ірыны Лаўроўскай — адной з лідэраў створанай колькі гадоў таму ў Берасці арганізацыі "Стары горад"*

Мае бацькі — расійцы. Але яны выхавалі ўва мне свядома добрае стаўленне і павагу да зямлі, дзе я нарадзілася, і да яе народа. Беларусь — мая радзіма — гэта я ўсвядоміла з дзяцінства.

Маім крокам да беларушчыны стала мая прафесія. У інстытуце, які я скончыла ў 1974 годзе, нас рыхтавалі да творчай працы. Архітэктура была маім захапленнем, за інстытуцкі праект я атрымала дыплом Саюза архітэктараў. Але, прыйшоўшы працаваць у архітэктурную майстэрню, я сутыкнулася з рэаліяй савецкай архітэктуры — тыпавым праектаваннем стандартных дамоў. Ні пра якую творчасць не было і гаворкі, і тут я атрымала нечаканую прапанову выкладаць выяўленчае мастацтва ў школе. Атрымалася так, што 31 жніўня 1985 года я была яшчэ архітэктарам, а 1 верасня стала класным кіраўніком у берасцейскай школе №12.

Архітэктары, ды, думаю, не толькі яны, ствараюць у грамадстве вузкае кола прафесіяналаў. Яны жывуць у замкнёным асяроддзі, амаль не сутыкаючыся з праблемамі грамадства і мала разумеючы іх. Я выйшла з гэтага кола і дзякуючы таму набыла новы погляд на знаёмыя рэчы.

У сістэме школьніцтва я была новым чалавекам і таму шмат што ў ёй мне напачатку было папросту незразумелым. Чаму школа існуе па-за межамі інтарэсаў дзяцей, чаму галоўная задача настаўніка — не навучанне, а выкананне нейкіх незразумелых інструкцыяў? Школа, якую я ўяўляла як месца, дзе фармуюцца асобы, у рэчаіснасці аказалася адным з тых канвеераў, якія стварыла савецкая сістэма. Толькі замест тыпавых дамоў яна выпускала тыпавых людзей.

Тады мне было трыццаць чатыры гады. У такім узросце людзі маюць уласны погляд на жыццё. Мае погляды шмат каму з маіх начальнікаў падаліся занадта радыкальным, і мне давялося змяніць месца працы. Я перайшла ў гарадскую школу №26. Там я і зрабіла свой наступны крок да Беларусі.

У школе я сустрэла не толькі аднадумцаў, але і іншых дзяцей. Школа была новай, яна стаяла на ўскрайку горада і ў ёй вучыліся пераважна дзеці тых людзей, якія зусім нядаўна перасяліліся ў горад з вёсак і у той ці іншай ступені захавалі традыцыйную народную культуру.

Школьныя ўрокі я старалася зрабіць цікавымі сваім вучням: прыносіла ім рушнікі, вышыванкі, іншыя рэчы традыцыйнай культуры, паказвала малюнкі з выявамі старой беларускай архітэктуры, давала слухаць запісы аўтэнтычнага фальклору. І разам з тым я бачыла, што асяроддзе, у якім існуюць гэтыя школьнікі, выхоўвае ў іх сапраўдную пагарду да ўласнай спадчыны. Часам яны папросту смяяліся, слухаючы народныя песні, бо ў тэлепраграмах чулі зусім іншыя, а з кніг ведалі пра тое, што да Кастрычніцкай рэвалюцыі ў нашым краі не было нічога, акрамя жабрацтва і прыгнёту.

Час мяняе ўсё. Праз нейкі час вучні пачалі самі заставацца пасля заняткаў, каб пабыць на лекцыях, якія мы ладзілі.Я памятаю, як адзін з іх папрасіў мяне ўключыць запісы беларускіх калядных песень, а, праслухаўшы іх, сказаў: "Я нібыта пабываў у вёсачцы ў бабулі". Вы не можаце ўявіць, як гэта мяне ўзрушыла...

Потым мы з дзецьмі намалявалі на сцяне нашага кабінета вялікую копію старой гравюры — выгляд старажытнага Берасця ў 1657 годзе. І я як архітэктар у час лекцыяў пачала тлумачыць, што на гэтай гравюры: з правага боку — бернардынскі кляштар, з левага — дамініканскі. Праходзіць тыдзень, і дзеці мяне перапытваюць, што тут намалявана. "З правага боку — дамініканскі кляштар, з левага — бернардынскі", — адказала я. На гэтым трэцякласнікі мяне і злавілі. Каб не рабіць памылак, я вырашыла дакладна вывучыць гісторыю і архітэктуру горада. Гэта стала пачаткам навуковай працы — "Архітэктура старажытнага Берасця перыяду Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай" — якую я спадзяюся скончыць сёлета. У 1989 годзе мне прапанавалі пасаду выкладчыка Берасцейскага дзяржаўнага універсітэта. Там я атрымала магчымасць займацца навукай, працаваць у архівах і зноў вярнулася да архітэктуры.

На працягу тых гадоў мая праца і мае зацікаўленні дапамаглі мне зразумець: горад, у якім я жыву, — не проста адзін з абласных цэнтраў Савецкага Саюза, яго гісторыя і культура маюць іншыя, вельмі глыбокія карані. Наш горад на працягу стагоддзяў знаходзіўся на памежжы і таму заўсёды адыгрываў важную ролю ў дачыненнях паміж рознымі дзяржавамі, народамі і верамі. Так, у XVIII стагоддзі тут было каля двух дзесяткаў святыняў розных вераў і канфесіяў. І не дарма менавіта тут чатыры стагоддзі таму была адпісаная царкоўная унія. Пасля апошняга падзелу Рэчы Паспалітай і далучэння Беларусі да імперыі Берасце было вельмі нечаканай знаходкай для Расіі. Сама шматэтнічная і шматканфесійная культура гэтага горада адкрыта супрацьстаяла прынцыпу "православие, самодержавие, народность". Таму старажытны горад быў зруйнаваны, а на яго месцы была збудаваная крэпасць.

Веданне ўсяго гэтага дапамагло мне зрабіць адно адкрыццё: на тэрыторыі старога горада дагэтуль захавалася частка старога Берасця — бернардынскі кляштар. Яго рэшткі я, карыстаючыся старым планам, адшукала на тэрыторыі крэпасці. Пра гэтую знаходку я расказвала ўсім сваім сябрам і ці не кожнаму з іх з планам у руках паказвала рэшткі старога збудавання.

Той кляштар знаходзіўся на тэрыторыі вайсковай часткі і нас — тых, хто пачаў цікавіцца гісторыяй свайго горада, — туды не пускалі. Але мы неяк дамовіліся — дапамогу нам аказаў адстаўны вайсковец, які займаўся з дзецьмі ў арганізацыі юных пагранічнікаў — і вырашылі прывесці туды дзяцей, і нашых і з яго клуба. Гэтыя дзеці, якім было па 12-14 гадоў, зацікавіліся гэтай справай не менш за нас. Адшуканне старога, невядомага будынка было для іх і гульнёй, і нейкай таямніцай. Мы атрымалі дазвол хадзіць туды і паціху ачышчалі будынак, выносілі з яго бітую цэглу. Потым да нас пачалі далучацца студэнты.

Недзе ў 1989 годзе я пазнаёмілася з настаўнікам гісторыі адной з гарадскіх школаў Юрасём Шаўцовым, які і падказаў мне ідэю стварэння арганізацыі, якая апекавалася б нашай гістарычнай спадчынай. 1990 год стаў пачаткам дзейнасці гэтай арганізацыі, якая атрымала

З нагоды

# Шлях асвятляла любоў да людзей



У пісьменніка Георгія Марчука 1 студзеня былі дзве істотныя нагоды выпіць добрую чарку. Адна нагода традыцыйная — новы ж год. Другая — якраз у гэты дзень яму споўнілася 50 гадоў.

Георгій нарадзіўся ў слаўным мястэчку Давыд-Гарадок. І адразу лёс пачаў жорстка выпрабоўваць малога. Ён вельмі рана асірацеў. Яму ў прамым сэнсе штодзень даводзілася змагацца, каб выжыць. Цяжкія ўмовы жыцця адбіліся на здароўі, спатрэбілася аперацыя на лёгкім. А як здабыць падлетку харчаванне, адзенне, урэшце — лекі? Ён мог зламацца, мог пайсці па крывой жыццёвай сцяжыне — ці ж мала таленавітых падлеткаў апынулася на гэтым шляху! Але хлопец збярог свой талент для дабра, для землякоў, якія ўрэшце яго хто чым мог падтрымлівалі. Ніколі не забудзе Георгій, як прыйшоў на аўтобусны прыпынак, каб падбадзёрыць ды праводзіць яго ў Менск, куды ехаў юнак паступаць у Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут, былы яго настаўнік матэматыкі І.Я.Ганчарык. Былі на шляху маладога творцы і яшчэ добрыя людзі. Усё гэта ўрэшце і вызначыла творчы накірунак маладога драматурга, а затым і аўтара апавяданняў і раманаў. Аптымізм, шчырая беларускасць, пашана да роднай гаворкі, паўнакроўныя характары персанажаў, у якіх лёгка пазнаюцца працавітыя і ўпартыя землякі — вось што адразу вызначыла маладога пісьменніка, зрабіла яго творчасць адметнай. Нездарма ж высокую ацэнку яго раману "Крык на хутары" даў народны пісьменнік Беларусі Васіль Быкаў.

З-пад пяра Георгія Марчука выйшла каля дзесятка кніг, добры тузін п'ес, кінасцэнарыяў, творы для дзяцей. Трэба спадзявацца, што наперадзе ў пісьменніка новыя творчыя дасягненні. А працавітасці і вясёлай упартасці яму не пазычаць.

**Віктар ШНІП.**

*Мікола ЕРМАЛОВІЧ*

# Таму, хто прачнуўся

Дарагі сябра! Ты раскрыў ужо свае вочы і правільна глядзіш на свет. Але табе пакуль што страшна, ты сябе адчуваеш адзінокім, слабым і нават непатрэбным. Што ж, зразумела. Заўсёды новае страшыць і выклікае няўпэўненасць. У некаторых з'яўляецца здрадлівая думка: "А навошта мне ісці па невядомай вузенькай сцяжынцы, калі можна падобна многім ісці па бітаму гасцінцу". І чаго граха таіць, іншыя, зрабіўшы некалькі крокаў у невядомае, вяртаюцца назад і скіроўваюцца на вытаптаны шлях.

Але ты не паддавайся гэтаму настрою, перамагай яго.

Найперш ты павінен заўсёды памятаць, што ты жывеш на сваёй зямлі, што ніхто іншы, а ты — гаспадар яе. Калі ты ніколі пра гэта не будзеш забывацца, то заўсёды будзеш упэўнены ў сваёй справе.

Ведай таксама, што ніхто не прынясе шчасця, дабра і парадку тваёй радзіме, апроч цябе, і таму бяры лёс сваёй радзімы ў свае рукі.

Абудзіўся сам — абуджай іншых да свядомага нацыянальнага жыцця. Калі ты хоць аднаго чалавека далучыш да патрыятычнай работы — зробіш вялікую справу. А зрабіць ты можаш куды болей.

> ***Наша даведка:***
> *Пісьменнік Мікола Ермаловіч нарадзіўся ў 1921 г. у Дзяржынскім раёне. Пастаянна займаўся праблемамі гісторыі Беларусі, выдаў кнігі "Па слядах аднаго міфа" і "Старажытная Беларусь", за якую ў 1992 г. атрымаў Дзяржаўную прэмію.*

Ніколі не выракайся роднай мовы, тым больш жывучы на радзіме. Заўсёды вусна і пісьмова ўжывай яе, змагайся за яе. Ведай, што той, хто прапаведуе вырачэнне роднай мовы, сам ад сваёй не толькі не выракаецца, але і навязвае чужую яшчэ іншым.

Цвёрда памятай, што вырачэнне тваёй радзімы — у яе волі і незалежнасці. Таму змагаючыся за яе волю і незалежнасць, ты змагаешся за яе будучыню.

Самае найбольшае багацце — радзіма. Калі ты яго страціш, зробішся і сам жабраком і жабрацтва перадасі ў спадчыну сваім дзецям. Таму ўсё сваё жыццё аддай радзіме. Кожнай сваёй думкай будзь з ёй, кожнае слова — у абарону яе, кожную сваю справу — на карысць яе. Хай кожны крок твой будзе крокам тваёй радзімы да волі!..

Мы кругом абрабаваныя. Усё наша ў чужых руках. Усё стала не нашым. Пазбаўленыя ўсяго свайго, бяспраўныя нявольнікі і парабкі бяздушша, мы асуджаны на мізэрнае існаванне. Але калі сёння немагчыма яшчэ вызваліць ад ланцугоў свае рукі, то вызваліць свае душы мы можам ужо цяпер. Калі сёння нельга вырваць з чужых рук нашы багацці, то няхай нашы сэрцы вызваляюцца ад страху перад пачварнай сілай гвалту, хай розум наш скідае з сябе ланцугі хлусні, якія аблыталі яго. Няхай жа ў новым годзе ўзнікаюць вольныя песні, вольныя думкі і вольныя словы. Вядома, гэта далёка не ўсё, але з гэтага пачынаецца заўсёды сапраўдная ВОЛЯ.

**"Свабодныя прафсаюзы".**

## Крымінал-Дайджэст

Новы год пачаўся з серыі забойстваў на бытавой глебе. Пасля сумеснага распіцця алкагольных напояў у вёсцы Звенячы Талачынскага раёна мясцовы калгаснік так збіў былую жонку, што тая праз дзень памерла. А ў Барысаве сын нанёс смяротныя цялесныя пашкоджанні сваёй роднай маці. Падобны лёс напаткаў і былых супругаў у вёсках Углы Капыльскага і Люлева Асіповіцкага раёнаў. У Менску ў 4 гадзіны раніцы 1 студзеня пяцёра падпітых хуліганаў увараліся ў кватэру, да смерці збілі мужчыну і згвалцілі жанчыну. Усе злачынцы затрыманыя.

Трое невядомых папрасілі жыхара Менска М. адвезці іх на сваёй машыне ў Пухавіцкі раён. Каля вёскі Блонь яны замест грошай ткнулі ў бок гаспадару пісталет і выкінулі яго з салона "Мерседэса". У Бабруйску трое рабаўнікоў падобным чынам забралі ў мясцовага жыхара "Форд". Зараз многія грамадзяне працуюць прыватнымі таксістамі, але ў пагоні за грашыма некаторыя забываюць аб уласнай бяспецы.

Адным навагоднім вечарам у Заводскі райаддзел міліцыі Менска звярнулася 64-гадовая пенсіянерка: невядомы каля дома № 38 па вуліцы Ротмістрава вырваў з рук сумку, у якой яна несла з крамы прадукты.. Цераз 15 хвілін рабаўніка Юру Ш., навучэнца ПТВ № 203, затрымалі ў пад'ездзе суседняга дома. Рабаўніка змясцілі ў ізалятар часовага затрымання, дзе ўжо знаходзіўся іншы налётчык, які на Партызанскім праспекце вырваў з рук грамадзянкі С. вацок са 172 доларамі ЗША і 880 тысячамі беларускіх рублёў.

21-гадовы гамяльчанін добра павесяліўся з сябрамі, пасля чаго апынуўся на прывакзальнай плошчы. Праспаўшыся на вакзале, ён чапіўся да прадпрымальніка, які прывёз на продаж чарговую партыю кветак. "З секунды — і цябе тут няма," — заявіў малады гуляка бізнесмену. Для большай важкасці сваіх слоў хуліган дастаў пісталет і сеў у "Жыгулі" кветачніка. Але той не разгубіўся і звярнуўся да дзяжурнага міліцыянта.
Нарад аховы прыбыў вельмі хутка і затрымаў злачынцу. Пацярпелы адразу апазнаў крыўдзіцеля, які так і не здолеў завесці старэнькую машыну.
Пры даглядзе ў яго была знойдзеная... пластмасавая імітацыя пісталета. "Я пажартаваў," — сказаў ён міліцыянтам, але цяпер яму прыходзіцца "жартаваць" у кабінеце следчага Чыгуначнага РАУС Гомеля.

15-гадовая жыхарка Рэчыцы Ірына Д. глыбокай ноччу вярталася дамоў ад сяброўкі. Раптам побач з'явіўся хлопец, які дастаў, як потым высветлілася, цацачны пісталет і загадаў Ірыне зняць завушніцы і пярсцёнак. Такім чынам 5 залатых вырабаў трапілі ў кішэню рабаўніка.

Супрацоўнікам рэчыцкага крымінальнага вышуку спатрэбілася троху больш сутак, каб знайсці злачынцу, які паспеў прадаць нарабаванае гомельскім цыганкам.

**Па дадзеных прэс-службы МУС падрыхтаваў А.Н.**

Грамадскі рух

# у новай Еўропе

назву "Стары горад". Гэта быў час вялікіх зменаў. Цікаўнасць да старой архітэктуры набывала новае аблічча цікаўнасці да гісторыі і культуры Беларусі. Памятаю, як увосень, калі займацца рэстаўрацыяй стала ўжо немагчыма, мы прынеслі ў гэтую частку старажытнага Берасця нашыя старыя сімвалы — сцягі, Пагоню і развесілі іх на сценах старога кляштара. Мы хадзілі быццам не па мемарыяльным комплексе "Брэсцкая крэпасць", збудаваным у 1972 годзе, а па старым Берасці. На месцы, дзе гарыць мемарыяльны агонь, мы бачылі езуіцкі калегіум, у якім вучыўся і выкладаў Казімір Лышчынскі. Мы ведалі, што замест узведзенай пазней царквы калісьці тут быў аўгустынскі кляштар. Мы хадзілі па месцы, дзе знаходзілася царква святога Мікалая, у якой была падпісаная унія...Гісторыю і архітэктуру старога Берасця мы маглі маляваць на плітах, што пакрывалі зямлю мемарыяла.

Узімку нашая суполка працягнула пачатую справу. Мы — школьнікі, студэнты, выкладчыкі, навукоўцы — збіраліся і наўзаем абменьваліся звесткамі з гісторыі горада, адшуканымі намі ў архівах, фондах, бібліятэках.

У такім выглядзе мы існавалі амаль год, пакуль не зразумелі, што да арганізацыі, нефармальнай, не маючай юрыдычнага статуса мала хто будзе прыслухоўвацца і таму зрабіць мы зможам няшмат. Таму ў лютым 1992 года мы зарэгістраваліся як гарадское грамадскае аб'яднанне "Стары горад", створанае з мэтаю аховы нашай гісторыка-культурнай спадчыны і распаўсюджвання звестак аб ёй. Мы хацелі, каб людзі даведаліся, якую багатую культурную і гістарычную спадчыну яны маюць, каб яны захоўвалі, а не выракаліся яе. Сябрам нашай арганізацыі мог стаць кожны, хто адчуваў сваю прыналежнасць да старога Берасця, кожны, хто любіў гэты горад.

У наступныя тры гады "Стары горад" набыў значны досвед самастойнай дзейнасці. Арганізацыя мела нават уласную рубрыку ў гарадской газеце — там змяшчаліся звесткі з гісторыі Берасця і інфармацыя аб нашай дзейнасці. Мы праводзілі лекторыі, экскурсіі для школьнікаў. Аднак кожнае дзеянне сустракае супрацьдзеянне.

"Стары горад", ператварыўшыся ў грамадскую арганізацыю, прайшоў некалькі этапаў развіцця. І ці не найвялікшай праблемай для нас сталі стасункі з дзяржаўнымі ўстановамі. Першы іх этап, які прыпаў на час адраджэнства пачатку 90-х, нагадваў стан закаханасці: нам абяцалі ўсялякую падтрымку і літаральна насілі на руках. Але калі мы пачалі выстаўляць патрабаванні захавання гістарычнай спадчыны, выкрываць звязаныя з імі праблемы, стаўленне да нас стала значна менш прыязным. Аказалася, што большасці чыноўнікаў нашая актыўнасць папросту перашкаджае.

У 1993-м адбыўся першы паважны канфлікт нашай арганізацыі з уладамі, які цягнуўся каля года. Тады "Старому гораду" прапанавалі ўзяць удзел у абмеркаванні і распрацоўцы плана святкавання 975-й гадавіны Берасця. Мы прынялі гэтую прапанову і выставілі на разгляд планы каля двух дзесяткаў розных акцыяў. Пераважная большасць з іх была ўключаная ў праграму свята.

Але ў гэтым спісе былі дзве прапановы, якім мы надавалі найбольшую ўвагу. Першая — правядзенне з'езда берасцейцаў свету. Другая — навукова-практычная канферэнцыя "Гісторыя і сучаснасць Берасцейшчыны". Канферэнцыя, на нашую думку, мусіла зрэзаць напластаванні ілжывай, фальсіфікаванай, напісанай чужынцамі гісторыі нашага горада і адкрыць сапраўдную гісторыю Берасця — старажытнага беларускага горада. Сваю ролю мусіў адыграць і сусветны фэст берасцейцаў. Калісьці я падлічыла: тыя гараджане, якія сёння маюць 80 гадоў, на сваім вяку перажылі дзесяць зменаў улады (нядаўна, можна меркаваць, адзінаццатую). Не дзіўна, што гэтыя людзі і іх нашчадкі не імкнуліся выявіць сваю прыналежнасць да нашага народа і яго культуры. Але адметнасць беларускай культуры нашага рэгіёна якраз у тым, што яна спрадвеку існавала як кангламерат мноства розных нацыянальных культур.Таму сустрэчу раскіданых па ўсім свеце берасцейцаў мы бачылі як спробу звесці розныя пакаленні людзей — прадстаўнікоў розных народаў і адначасова носьбітаў адзінай культуры беларускага горада, што стаіць на сумежжы розных дзяржаваў і этнасаў.

Напачатку ўсе нашыя прапановы былі ўключаныя ў адмысловую пастанову гарадскога выканаўчага камітэта аб святкаванні. Але раптам прагучалі словы: "Стары горад" запрашае на свята былых паліцаяў!" Пачаўся канфлікт, вынікам якога стала забарона фэсту. Дзяржаўныя арганізацыі, у тым ліку і Міністэрства замежных справаў (якім у той час кіраваў Пётр Краўчанка і якое напачатку дапамагала нам распаўсюджваць у свеце інфармацыю пра з'езд) спынілі сваю падтрымку гэтай нашай праграмы. А ў той час лакальныя камітэты падрыхтоўкі да з'езда ўжо былі створаныя не толькі ў горадзе, а і ў Вялікай Брытаніі, Польшчы, Францыі, ЗША! Дасылаліся запрашэнні і людзі адгукаліся на іх.

Нягледзячы на тое, што ўлады нам адмовілі ў падтрымцы і фэсту, і канферэнцыі, тыя адбыліся — дапамог Фонд Сораса. Але паўдзельнічаць у іх не змаглі многія са старых берасцейцаў. Гэта прыкра ўжо таму, што сёння шмат хто з іх ужо не жыве. Мы страцілі тых, хто ствараў і захоўваў нашую спадчыну.

Што даў гэты канфлікт нашай грамадскай арганізацыі? З аднаго боку —вядомасць і досвед працы. Мы зразумелі, што можам дзейнічаць самастойна і не залежаць ад нечых рашэнняў. Да таго патрэбна мець толькі вызначаныя мэты і жаданне іх дасягнуць. З другога боку, мы атрымалі стаўленне чынавенства да нас, як да радыкалаў, а значыць — адсутнасць былых захапленняў і абяцанняў дапамагчы.

Аднак сёння мы бачым: нашая праца дала свой плён. Пачатае сябрамі "Старога горада" працягваюць іншыя. У кожнай школе з'явіліся стэнды, прысвечаныя гісторыі горада. Адбыліся пачатыя намі раскопкі бернардынскага кляштара. У 1996 годзе на месцы, дзе калісьці стаяла царква святога Мікалая, берасцейцы адзначалі 400-годдзе уніі. Нават на мясцовым гарэлачным заводзе цяпер выпускаецца цэлая серыя трункаў з этыкеткамі, што адлюстроўваюць падзеі гісторыі Берасця.

У 1995 годзе "Стары горад" прайшоў перарэгістрацыю, вызначыўшы новыя мэты дзейнасці. Галоўнай з іх стала спрыянне ініцыятывам берасцейцаў, скіраваным на развіццё інфраструктуры Берасця — старога горада ў новай Еўропе. Таму нашыя акцыі сталі менш прыкметнымі, затое больш эфектыўнымі, такімі, як удзел у заснаванні рэгіянальнай газеты "Шлях". Акрамя іншага, мы паспрыялі выданню кнігі "Брестская русская гимназия с 1918 по 1939 годы" Міхаіла Мантвілава — старога берасцейца і сябра нашай арганізацыі, які цяпер жыве ў Францыі. Мы зрабілі гэта, разумеючы, што адзіная беларуская культура ствараецца намаганнямі людзей розных моваў і культур, якія паходзяць з гэтай зямлі і адчуваюць сябе беларусамі. Думаю, што гэтая кніга можа шмат даць і сябрам ТБМ, бо тая расійская гімназія была створаная ў польскай дзяржаве не ўрадам, а намаганнямі расійскага нацыянальнага таварыства.

Што чакае "Стары горад" наперадзе? Мы разумеем, што надышоў час, мала спрыяльны для беларускіх нацыянальных арганізацыяў. Аўдытарскія праверкі, перарэгістрацыі — гэта спосабы ціску на іх з боку ўладаў. Бо кожная грамадская арганізацыя незалежна ад таго, чым яна займаецца — гісторыяй культуры ці аховай жывёлаў, — вучыць сваіх сяброў думаць і дзейнічаць самастойна, не азіраючыся на ўрад, а таму сёння мае падставы разглядацца ім як натуральная антыўрадавая, апазіцыйная структура. Таму перад намі і, думаю, не толькі перад намі, можа паўстаць дылема — працягваць сваю дзейнасць як зарэгістраваная альбо як незарэгістраваная арганізацыя. Але я не думаю, што для нас гэта створыць цяжкасці. "Стары горад" пачаўся як нефармальная і не кантраляваная нікім арганізацыя і мае досвед існавання і дзейнасці ў такім выглядзе. Іншая рэч тое, што тым беларускім арганізацыям, якія страцяць свой статус юрыдычных асобаў, давядзецца выпрацаваць механізмы дзейнасці і супрацоўніцтва ў новых умовах.

Мы ўжо вяртаемся да таго, з чаго пачыналі: да лекторыяў, да публікацыяў гістарычных звестак у газетах. Мы акрэслілі і новы кірунак дзейнасці — сацыяльную падтрымку старых людзей — носьбітаў традыцыяў і культуры нашага горада, з якімі наладзілі кантакты ў час з'езда берасцейцаў свету. З нашым удзелам у горадзе створаны камітэт медыка-сацыяльнай дапамогі старым, дзе яны могуць атрымаць трохі лекаў і адзення, якія трапляюць да нас праз "Чырвоны крыж" ад іншых, раскіданых па свеце берасцейцаў.

Нам дапамагае тое, што ў Берасці ўжо існуе гістарычны факультэт, што людзі дзякуючы намаганням апошніх гадоў ужо могуць не толькі пачуць пра гісторыю свайго горада, а ўбачыць яго рэшткі на ўласныя вочы, што Берасце паволі вяртае сваё аблічча цэнтра многіх канфесіяў (тут створаная ўніяцкая парафія)...

Думаю, у тым, што ствараецца новая генерацыя берасцейцаў, якія ведаюць і любяць сваю малую радзіму, ёсць і нашая заслуга.

**Запісаў У.ПАНАДА.**

# Веруем

*Цудадзейныя абразы*

## Ікона Божай Маці Ражства Хрыстова

Святочны тыдзень паміж Ражством Хрыстовым і Новым Годам асвячае дабрадатная ікона Багародзіцы "Млекакормячая", дзе Выратавальнік і Збаўца наш Ісус Хрыстос яўлены ў першыя дні свайго зямнога жыцця.

Ікона Божай Маці Ражства Хрыстова зараз знаходзіцца на Афоне, у царкве Карэйскай Келлі, якая належыць Хілендарскаму манастыру. Паводле вуснага падання, першапачаткова гэтая ікона знаходзілася ў Лаўры святога Савы Асвечанага, што паблізу Іерусаліма.

Вялікі заснавальнік адзінай Лаўры на Усходзе, Сава Асвечаны перад сваім адыходам звярнуўся да нашчадкаў з прадказаннем і запаветам, што багамольцу царскага рода з Сербіі пад іменем Сава і павінна быць перададзеная гэтая цудадзейная ікона Багародзіцы як блаславенне. Святы Сава Асвечаны адышоў да Госпада ў часы панавання Юсціняна Вялікага ў 532 годзе.

Праз шэсць стагоддзяў святое прадказанне спраўдзілася. У XIII стагоддзі, у час наведвання Палесціны, святы Сава, архіепіскап Сербскі даведаўся пра запавет святога Савы Асвечанага і быў бласлаўлёны іконамі Божай Маці "Млекакормячая" і "Траяручыца".

Пры вяртанні з Палесціны ў Сербію святы Сава наведаў Афонскую Гару, дзе ім і быў заснаваны Хілендарскі манастыр. Гэтаму манастыру святы Сава і пакінуў у спадчыну цудадзейную ікону Багародзіцы "Млекакормячая". Ён паставіў абраз у царкве пры Карэйскай Келлі, што пры Хілендары, якую пазней назвалі "Ціпікарніцаю", так як у ёй захоўвўся напісаны святым Савам ціпікон, ці ўстаў. Ікону "Траяручыцы" ён аднёс у Сербію.

У знак асаблівага ўшанавання і пачытання ікона была змешчаная з правага боку ад алтара на месцы ікон Святой Троіцы ці Збавіцеля. Абраз Госпада Уладара ў гэтай царкве займае месца на левы бок ад Царскай Брамы, дзе павінна была стаяць ікона Божай Маці.




Дабрадатнае аблічча Божай Маці і Госпада Уладара на іконе выразнае, чыстае і напоўненае незвычайным хараством дабрыні і спагады да згібелага ў грахах чалавецтва. Гэтую ікону прылічваюць да лепшых узораў візантыйскай школы, якія з'яўляюцца такой рэдкасцю ў наш час.

На землях Беларусі, Летувы, Украіны, Расіі, Грузіі, Польшчы, Эстоніі захаваліся сведчанні пра ацаленні пасля малебнаў перад копіямі цудадзейнай іконы. Мясцовыя прыхадскія паданні згадваюць выпадкі пра ўратаванні пры пажарах і эпідэміях вернікаў і паломнікаў.

У час Ражства Хрыстова і Новага Года шматлікія паломнікі ў лірніцкіх і багамольскіх песнях звяртаюцца: "Царыца Нябесная, пакрый нас святым сваім Амафорам на ўвесь наступны год і ўсе дні нашага жыцця".

**А. Я.**

## Божае Нараджэнне

Святкаванню Раства Хрыстова "25 снежня /7 студзеня, пабудаванаму па вобразу святкавання Пасхі, папярэднічае 40-дзённы пост з асаблівымі падрыхтоўчымі днямі. Так, у дні святога апостала Андрэя 30 лістапада /13 снежня і святога Мікалая 6/19 снежня спяваюцца вершы, якія абвяшчаюць наход Раства Госпада.

*Вертепе благоукрасися, Агница бо грядёт чревоносящи Христа: ясли же подимите словом разрешившаго от безсловесного деяния нас земнородных.. Пастыри свеяюще сведетельствуйте чудесе страшному: и волсви от Персиды, злато и ливан и смирну Царю принесите яко явися Господь из Девы Марии....* (Песнаспеў Вячэрні св.Мікалая)

На пярэдадні Раства служацца Царскія Гадзіны і Літургія св. Васіля Вялікага, паяднаная з вячэрняй. На гэтых службах чытаюцца старазапаветныя прароцтвы Міхея, які прадказаў, што Вефліем будзе месцам нараджэння Збавіцеля, і Ісая, які прадказваў прыход Месіі і Яго аблічча.

*Сам Гоcпад дасць вам знак... Дзева ва ўлонні прыме і народзіць Сына, і дадуць імя Яму Эмануіл - гэта значыць з намі Бог, Іс.7,14.*

*З намі Бог! Разумейце народы і пакланяйцеся, бо з намі Бог! Іс.8,9.*

*Бо немаўля нарадзілася нам; Сын дадзены нам; Валадарства на рамёнах Яго, дадуць імя Яму: Цудны, Дарадца, Бог моцны, Айцец вечнасці, Князь свету. Памнажэнню валадарству Яго не будзе канца... Іс.9, 6-7.*

Усяночнае свята пачынаецца з Вялікага Павячэр'я з урачыстым спевам "З намі Бог" і вершамі прароцтва Ісая. На Павячэр'і таксама спяваюцца трапар і кандак свята і пасля доўгіх святочных экценей урачыста бласлаўляюцца пяць хлябоў, пшаніца і віно, якія потым раздаюцца вернікам, і алей, якім іх памазваe святар. Гэта частка службы завецца ліціёй. У пачатку Калляднай Ютрані, якая ўваходзіць разам з Павячэр'ем ва ўсяночную, спеў пачынаецца словамі "Слава в вышних Богу, на земли мир, в человецах благоволение..." Лк.2,14.

Евангельскае чытанне ад Мацвея апавядае аб Нараджэнні Хрыстовым, і ўсе песнаспевы і сціхіры праслаўляюць Яго.

*Христос рождается, славите. Христос с небес, срящите. Христос на земле, возноситеся.*

*Пойте Господеве вся земля, из весельем воспойте людие, яко прославися.*

Калядная літургія пачынаецца з псальмаў праслаўлення і хвалы. Напрыклад, гімн з паслання да Галатаў. Апостальскае чытанне таксама бярэцца з гэтага паслання. Гал.4,4-7.

Наступныя пасля Раства два дні прысвячаюцца Божай Маці і св. першапакутніку Стэфану.

А сам калядны перыяд працягваецца да Богаяўлення. Увесь гэты час спяваюцца святочныя спевы.

Да VI стагоддзя Раство адзначалася Царквой разам з Богаяўленнем, як наогул адна вялікая ўрачыстасць з'яўлення Бога на зямлі ў абліччы Чалавека, Месіі Ізраіля. Затым яно было выдзелена ў асобнае свята, каб надаць новы сэнс адзначаемаму ў той дзень паганскаму святкаванню неперроможнага Сонца. Гэта быў свядомы крок Царквы, накіраваны на перамогу над паганствам. Мы бачым гэта ў трапары свята, які адкідае пакланенне Сонцу, зоркам і заклікае да пакланення Хрысту, сапраўднаму "Сонцу Праўды". Мал.4,2.

*Рождество Твое, Христе Боже наш, возсия мирови свет разума, в нем бо звездам служащии звездою учахуся, Тебе кланятися Солнцу правды и Тебе ведети с высоты Востока: Господи, слава Тебе!* (Трапар).

Поўная ж назва свята гучыць так: Раство ўцелаўлення Госпада, Бога і Збаўцы нашага Ісуса Хрыста. Адзначае нараджэнне Сына Божага, сапраўднага прадвечнага Бога, мы спяваем у царкве: *Дева днесь Пресущественнаго раждает, и земля вертеп Неприступному приносит: Ангели с пастырьми славословят, волсви же со звездою путешествуют: нас бо ради родися Отроч Младо, превечный Бог.* (Кандак).

**Паводле кнігі Протаерэя Фамы Хапко "Асновы праваслаўя". Падрыхтаваў А.Н.**

## Абудзённікі з-пад Пушчы

У лясной глыбінцы на Магілёўшчыне ёсць вёсачка з каларытнай назвай — Пушча. Вякамі там, пэўна, шумелі бары, і першыя насельнікі пры выбары назвы вёскі ў кішэнь, як мовяць, не лезлі. Не раз праз тыя мясціны пракочваліся вогненныя віхуры войнаў, што неслі з сабою ўсходнія і заходнія заваёўнікі, гінулі мірныя вяскоўцы, іх бацькі, сыны, браты, узятыя ў войска. І каб уберагчы іх ад смерці на полі бою, тутэйшыя дзяўчаты ткалі на кроснах палотны, якія атрымалі назву "абудзённік". Са слоў ураджэнкі Пушчы, зараз пенсіянеркі з г. Салігорска Надзеі Якаўлеўны Лабковай, тканне абудзённікаў было свайго роду рытуалам, у якім спляліся традыцыі язычніцтва і праваслаўя. Тутэйшыя сяляне верылі, што тыя палотны, асвечаныя глыбокай верай у Бога, уратуюць іх землякоў-вайскоўцаў, адвядуць бяду ў ад вёскі.

Вось што расказала мне пры сустрэчы Надзея Якаўлеўна.

— У гады Айчыннай вайны я была падлеткам, але добра памятаю, як гэта ўсё рабілася. На тканне абудзённікаў запрашаліся толькі незамужнія дзяўчаты з тых хат, дзе хто-небудзь з мужчын служыў у войску ці быў у партызанах. Мая старэйшая сястра Марыля, ёй тады ішоў шаснаццаты год, таксама ткала абудзённікі, маці і бабуля навучылі яе і прасці, і ткаць. Звычайна ў адну хату збіраліся чалавек пяць-шэсць дзяўчат. Гаспадыня падавала ім на вячэру посную ежу. Затым яны садзіліся за прасніцы і працавалі ўсю ноч, каб да ўзыходу сонца напрасці нітак для навою з разлікам на метраў пяць-шэсць палатна. Затым цэлы дзень дзяўчаты, змяняючы адна другую, сядзелі за кроснамі і ткалі. Нічога не пілі і не елі. А калі абудзённік быў гатовы, яго змотвалі і неслі да рэчкі ці копанкі, мылі ў вадзе і сушылі, разаслаўшы на траве. І толькі пасля гэтага, з іконай наперадзе рытуальнага шэсця, разгарнуўшы на руках, неслі вакол вёскі, распяваючы святыя песні, у якіх славілася імя Гасподняе. Затым абудзённік завязваўся на крыжы, што стаяў пры ўездзе ў вёску, а святар з суседняй вёскі асвячаў яго. Вось тады толькі гаспадыня хаты, дзе ткаўся абудзённік, запрашала дзяўчат-ткачых за стол — на вячэру. Сястра за два гады акупацыі нашай мясцовасці выткала тых абудзённікаў не меней дзесяці. Было ад чаго: у нашай хаце, акрамя бацькі, маці, нас чацвярых дзяцей, жылі яшчэ тры сям'і — дзвюх матчыных родных сясцёр і сястры па бацькавай лініі. Восенню сорак трэцяга года, калі фронт набліжаўся да Магілёва, іх немцы выселілі з прыфрантавой паласы — у тыл. Так што ў хаце жыло пятнаццаць чалавек. І ў кожнай сям'і нехта быў салдатам ці партызанам. За іх і старалася сястра.

На маё пытанне, ці дапамаглі абудзённікі землякам-вайскоўцам, вёсцы выжыць у гады ваеннага ліхалецця, Надзея Якаўлеўна адказала так:

— Вёску нашу не раз бамбілі, дзве ці тры хаты згарэлі, астатнія ацалелі. А вось суседняя вялікая вёска Сёмуковічы, калі праходзіў фронт, выгарэла цалкам. З мужчынвяскоўцаў загінула на фронце ці ў партызанах чалавекі тры ці чатыры, астатнія вярнуліся. Хто паранены, хто хворы, але жывыя.

Той абрад з абудзённікамі, як заўважыла Надзея Якаўлеўна, у пасляваенныя гады паступова стаў забывацца.

Ды і лён у вёсцы перасталі вырошчваць, закінулі прасніцы, кросны, бо моладзь пасля школы бегла ў гарады. І цяпер у вёсцы з адмысловай назвай Пушча дажываюць век амаль адны пенсіянеры.

**М. ТЫЧЫНА.**
г. Слуцк.

*Лучана ПАВАРОЦІ*

## І я адчуў сябе зусім іншым чалавекам

Тады я меў сорак гадоў. Быў багаты, славуты, на вяршыні папулярнасці. Газеты пісалі пра мяне, што я — найлепшы тэнар свету. Оперы і фірмы гуказапісу гатовыя былі мяне раздзерці паміж сабой. Але занадта напружаная праца, шмат шуму вакол маёй асобы зруйнавалі маю душу. Дасягненне ўсіх мэтаў, якія можна было ўявіць, выклікала ўва мне пачуццё нудоты і ўпадку духу. Нават у сваёй сям'і, са сваімі дочкамі і жонкаю, я ўжо не адчуваў сябе добра. Мяне непакоіў такі мой псіхічны стан, але чамусьці я не меў сілы, каб штосьці зрабіць дзеля паляпшэння ўнутранага стану.

22 снежня 1975 года, у час вяртання з Амерыкі на самалёце, быў я ўвесь у разважаннях. Пры пералёце над аэрадромам Мальпенсы пілот канстатаваў, што пачаўся туман. Ён зрабіў некалькі кругоў і паспрабаваў вывесці самалёт на пасадку. Але была вельмі дрэнная бачнасць, і самалёт збіўся са стартавых палосаў. Калі кола дакранулася да няроўнай паверхні, крыло нахілілася і пераламалася напалову, адзін рухавік вылецеў куляй, другі таксама адваліўся. Самалёт працягваў свой шалёны бег, жахліва падскокваючы. Калі паламанае крыло зноў дакранулася зямлі, самалёт крутнуўся на месцы і, ападаючы, разляцеўся на дзве часткі.

Унутры яго запанавала бязладдзе. Людзі крычалі, плакалі, клікалі на дапамогу. Некаторыя спрабавалі выскачыць праз раздзёртую адтуліну. Я пачаў дапамагаць пасажырам, найперш дзецям. Калі нам нарэшце пашчасціла стаць на зямлю нагамі, мы адразу ж мусілі ўцякаць з таго месца, бо самалёт кожнае хвіліны мог узарвацца.

У тую ноч, калі я нарэшце трапіў у свой дом, да жонкі і дзяцей, я раптам адчуў, якім прыгожым, якім каштоўным з'яўляецца наша жыццё. Усё раптам здалося мне вельмі важным: аголеныя дрэвы ў садзе, сабакі, што скакалі вакол мяне ад радасці, маё старое адзенне, кожная рэч у нашым доме. Я не мог заснуць. Увесь час блукаў па пакоях, глядзеў на сонных дачушак і... усміхаўся. Нудота, апатыя, сум, якія мучылі мяне апошнім часам, зніклі бясследна. Так прайшлі тые некалькі дзён майго адпачынку. Я чуў сябе дзіцем. Дапамагаў зрабіць яслі для дзіцяткі, спяваў калядныя песні, і яны кранулі мяне да слёз. Я адчуў сябе зусім іншым чалавекам.

Ад тае каляднае зорачкі распачалося маё новае жыццё. Той драматычны інцыдэнт, у часе якога я быў твар у твар са смерцю, стаў для мяне жывым зарадам, які ніколі не вычэрпваўся.

## Ліквідацыя аўтакефальнай Царквы на Украіне?

Газета "Вечерній Київ" паведаміла, што ерарх Украінскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы (УАПЦ), патрыярх Дзмітрый (Ярэма) падпісаў рашэнне аб ліквідацыі сваёй уласнай Царквы. Прычынай гэтага кроку стала "расчараванне патрыярха сваім атачэннем, адсутнасць адзінства паміж ім і епіскапатам, непрыстойныя паводзіны некаторых епіскапаў, а таксама фінансавыя спрэчкі паміж патрыярхам і яго канцылярыяй".

Паводле газеты, аўтакефальная Царква цяпер падзеленая на тры лагеры. Рашэнне патрыярха падзяляе толькі адзін епіскап Ігар (Ісічэнка). Тры епіскапы маюць намер стварыць "сінадальную" Царкву. Частка епіскапаў праўдападобна пяройдзе пад юрысдыкцыю кіраўніка Украінскай Праваслаўнай Царквы Кіеўскага Патрыярхату (УПЦКП), патрыярха Філарэта (Дзенісенкі). Пасля абвяшчэння незалежнасці Украіны частка ерархаў і парафій украінскага экзархату Рускай Праваслаўнай Царквы заснавала самастойны Кіеўскі Патрыярхат, які ўзначаліў патрыярх Уладзімір (Раманюк). Цяпер яго ўзначальвае былы экзарх Украіны Філарэт. Большасць вернікаў і парафій засталіся ў Украінскай Праваслаўнай Царкве Маскоўскага Патрыярхату на чале з мітрапалітам Уладзімірам (Сабаданам). Украінская Аўтакефальная Праваслаўная Царква паўстала па ініцыятыве патрыярха Мсціслава (Скрыпнікава), які раней у ЗША заснаваў эміграцкую УАПЦ.

**(KAI).**

## Большасць французаў за рэлігійную навуку

Больш паловы (58%) французскіх бацькоў хоча, каб іх дзеці атрымлівалі рэлігійную адукацыю. 41% анкетаваных матывуюць сваё рашэнне жаданнем перадаць маладому пакаленню маральныя вартасці. Кожны чацвёрты з апытаных хацеў бы з дапамогай рэлігійнай адукацыі падзяліцца з дзецьмі сваёй верай, а кожны дзесяты — паказаць ім сэнс жыцця. Для 18 % апытаных адукацыя важная таму, што ў рэлігіі знаходзяцца карані культуры.

**(KAI).**



*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*

*Францішак Багушэвіч.*

**Беларускае адраджэнне**

**Алена ЯСКЕВІЧ,**
*кандыдат філалагічных навук*

# Лексіка-сінанімічнае багацце "Сінонімы славенароскай"

"Сіноніма славенароская" ўражвае сваім аб'ёмам — каля 5 тысяч рэестравых радоў, а яшчэ больш сваім сінанімічным багаццем.

У вачах гісторыка беларускай мовы няма цаны гэтаму слоўніку!

Цікава вандраваць у гэтым моры славянскага слова, у яго старажытнай этымалогіі, ды яшчэ калі компасам у рэестравай частцы служыць старабеларуская мова, яе гэтак багата прадстаўлены невядомым лексікографам слоўны запас: бліскавіца, молния, блистание; блазен, кощунник, шут, оурод, юрод, уродослов; бок, бедро, чресло; брама, врата; брод, водостеч; бруд, скверна, нечистота; будовник, здатель, созидатель, сождитель, строитель, тектон, архитектон; яковость, качество, количество; шатан, сатана, дьявол; шата, одежда, риза; торба, тайстра (суч. дыял. кайстра); сукня, верхняя риза, одежда; тыждень, седмица, неделя; тутейшій, здешний; хіблю, погрешаю; ховаю, храню; ужываю, употребляю; яріна, зелие; хапаю, емлю, похищаю; ярмо, иго; шпегую, соглядаю; таемница, тайна; ятровка, повинная, ятровъ; спочатку, искони, изначала, вначале; ядерный (суч. ядраны), младый; учінок, дело, делание, начинание; юрность, расверепение, нечистота; юхтовый, кожаный, усмень; черга, чреда; чинш, дань; цебер, водонос, ров; паркан, забрало; доброде́й, благодетель; догажаніе, сохождение, сни(с)хождение, угодие, упокоение; дотыкаюся, прикасаю(с), касаю(с); драбіна, лествіца; журба, печаль, скорбь; існость, существо; краіна, страна; ласка, благодать; літость, милость, змилование; погорок, холм; палац, палата; сором, срам, студ; стежка, стезя, путь; страва, пища, ядь, снедь.

Паводле складу лексікі слоўнік належыць да ліку дыферэнцыяльных. Ён уключае ў сябе ў асноўным тыя старабеларускія лексемы, якія адрозніваюцца ад старарускіх адпаведнікаў лексічным значэннем (блазенство — уродство; блукаюся — скитаюся; варуюся — уклоняюся; вандрованіе — странствие, шествие; вапно — мел) або часцей за ўсё словаўтварэннем, часам граматычнымі родамі, лікамі, фанетычнымі асаблівасцямі (байка, басньо, баянне; бляск — блистание; ворогую — враждую; брязкало — бряцало).

У слоўніку шырока прадстаўленыя ўсе стылі; ад рэлігійных да свецкіх (навуковага, публіцыстычнага і інш.), амаль усе пласты лексікі (ад бытавой да адцягненай).

Рэестравая частка слоўніка адлюстроўвае асноўныя спецыфічныя рысы старабеларускай, літаратурнай мовы, за выключэннем невялікай колькасці агульнаўсходнеславянскіх слоў, якія ўключаныя ў слоўнік пераважна з мэтай захавання пэўных лексікаграфічных прынцыпаў.

Рэестравыя словы ў "Сіноніме..." падаюцца ў строгім алфавітным парадку. Акрамя таго, у слоўніку з-за даволі шырокага ахопу лексікі і дзеля кампактнага яе размяшчэння назіраюцца выпадкі і гнездавой сістэмы.

Пераклад з блізкароднасных моў за асноўны метад меў падбор сінанімічных лексічных пар у якасці тлумачэння. Дарэчы, гэтым метадам перакладу шырока карыстаюцца і пры складанні сучасных блізкамоўных слоўнікаў.

**Мікалай Крыўко**

## Слоўнік сінонімаў

**ПРАДРАЦЦА і ПРАДЗЕРЦІСЯ** (знасіцца да дзірак або быць прадраным у адным месцы) *Шкарпэткі, звязаныя бабай з воўны, за зіму прадраліся, і голымі пальцамі ног... адчуваюцца цвікі* (Паўлаў). *Крысо адно ў каптане было прадралася* (Баранавых). *Рукаў на локці прадзёрся*, **ПРАДЗІРАВІЦЦА** *Кофта прадзіравілася* ***ПРАРВАЦЦА*** *Мех ужо прарваўся*, **ПРАЛУПІЦЦА** размоўнае, узмацняльнае *Рукавы на локцях пралупіліся. — Незакончанае трыванне:* **Прадзірацца, прадзіраўлівацца, прарывацца, пралупплівацца.**

**ПРАДРАЦЬ і ПРАДЗЕРЦІ** (зрабіць дзірку ў чым-н. або знасіць да дзірак) *Прадраць кофту. Тады ён [Зайкоўскі] прадраў страху і праз дзірку шуснуў на зямлю, а там яго толькі і бачылі* (Колас). *Страха палала ўжо з усіх бакоў, а дэсантнікі не паказваліся. Не мог жа ён [Дзмітрый] забіць іх. А што, калі яны прадзёрлі страху з другога боку і ўцяклі?* (Беразняк), ***ПРАДЗІРАВІЦЬ*** *Прадзіравіць локці ў світары. Скуру ваўка Мусбалак паспеў прадзіравіць у некалькіх месцах* (Беразняк). *Толькі цяпер сцяміў Вадзік: кручок зачапіўся за лодку і прадзіравіў яе* (Гамолка), ***ПРАРВАЦЬ*** *Сухі корань прарваў шынель і прайшоў навылёт* (Чорны). *У тую ж ноч з барака збеглі двое, Прарвалі агароджу ля варот* (Аўрамчык), **ПРАЛУПІЦЬ** разм., узмацн. *Пралупіць локці. Пралупіць страху. — Незакончанае трыванне:* **Прадзіраць, прадзіраўліваць, прарываць, пралупліваць.**

**ПРАДСТАВІЦЦА** (знаёмячыся, назваць сябе) — *Пахвальна, пахвальна, — застаўся задаволены яе адказам дзядок і прадставіўся Рыце: — А я вось калгасны аграном* (Васілевіч). *— Яніна! — прадставілася сяброўка, какетліва ўскінуўшы на мяне карыя вачаняты* (Карпюк), **АДРЭКАМЕНДАВАЦЦА** *Рухавы юнак, працягваючы шырокую далонь з мазалямі, адрэкамендаваўся: — Іван... Рачыцкі* (Лукша). *Малады чалавек адрэкамендаваўся нам Васілём Чугуевым* (Пярмяк). — *Незак.:* **Прадстаўляцца, рэкамендавацца і адрэкамендоўвацца.**

**ПРАДСТАЎЛЕННЕ** (спектакль, канцэрт, цыркавыя нумары і пад., якія паказваюцца публіцы на сцэне, арэне і пад.) *Вечарам у клубе было прадстаўленне* (Лобан). *Новы рэжысёр убачыў у ёй [п'есе "Несцерка"] рэалістычную казку, якая давала магчымасць для стварэння яскравага музычнага народнага прадстаўлення* (Сяргейчык), ***ВІДОВІШЧА*** *Адзін са студэнтаў выказвае думку, што кіно з цягам часу выцесніць тэатр, што паступова адпадзе патрэба ў тэатральных прадстаўленнях і таму падобных відовішчах* (Перкін). *Першы студыйны спектакль "Цар Максіміліян" — народнае відовішча ў двух актах* ("Беларусь"). — **Параўнайце**: С п е к т а к л ь.

**ПРАДУЗЯТЫ** (пра думку, меркаванне і пад.: заснаваны на прадузятасці, на думцы, што склалася загадзя) *Кася вярнулася дамоў, там была ўжо Чырвоная Армія, да якой у дзяўчыны было прадузятае стаўленне, вынесенае з гімназіі* (Карпюк). *У гэтым артыкуле Я. Колас палемізуе з адным са сваіх крытыкаў гэтай аповесці, які даваў няправільную, яўна прадузятую трактоўку твора* ("Полымя"), **ТЭНДЭНЦЫЙНЫ** узмацняльнае *Той, хто хацеў бы ўпарта бачыць Багдановіча сімвалістам, дэкадэнтам, мог бы знайсці для сваіх, вядома, тэндэнцыйных высноў дастаткова матэрыялу (і нават больш прыдатнага) і ў больш позніх, так званых "класічных" вершах* (М. Стральцоў). [*Мароз:*] *— Я, я, вось па гэтаму я і хачу сказаць, што гэта абвінавачанне тэндэнцыйнае, няправільнае* (Лобан), **НЕБЕССТАРОННІ** *Небестароннія меркаванні. Небестаронняя трактоўка сітуацыі. — Антонімы:* Н е п р а д у з я т ы, а б ' е к т ы ў н ы, б е с с т а р о н н і.

— **Прадузятасць, тэндэнцыйнасць, небесстароннасць.**

**ПРАДУКТЫ** мн. (прадметы харчавання ў выглядзе прыпасаў, у якасці тавару і пад.) *На нартах у мяшках былі прадукты: мяса, кансервы, сухары* (Шамякін). *Палічкі трэцяй шафы займаліся прадуктамі — гарохам, макаронамі, крупамі — перасыпанымі з магазінных кулькоў у белыя торбачкі рознага калібру* (Ракітны), **ХАРЧАВАННЕ** *Сяляне дзяліліся з народнымі мсціўцамі харчаваннем, адзеннем* ("Звязда"). — *Ён [Янка] і яшчэ двое юнакоў састаў з харчаваннем прывезлі ў Маскву* (П. Ткачоў), **ПРАВІЗІЯ** *Са складоў сюды вазілі муку і ўсякую іншую правізію* (Хведаровіч). *На вазах поўным-поўна рознай правізіі: мяшкі з мукою і бульбаю, боханы свежавыпечанага хлеба, кублы з салам і мясам, гляткі і бутлі з самагонкаю* (Кавалёў), **ПРАВІЯНТ** (прадукты для арміі, экспедыцыі, паходу і пад.) *Не маючы ні правіянту, ні патронаў, батальён стойка біўся.., адбіваючы атакі ворага штыкамі* (Колас). *Рэчы, прылады працы, правіянт і шматлікі іншы рыштунак — усё спарадкавана належным чынам* (Масарэнка). — *Параўнайце:* Е ж а, С т р а в а, Х а р ч а в а н н е.

**Ствараем энцыклапедыю "Новай зямлі"**

# Суседскія пераклады

Цікаўнасць расійскай інтэлігенцыі, пераважна пісьменнікаў, да беларускай літаратуры ўзнікла даўно. Славуты М. Пагодзін паслаў Паўлу Шафарыку беларускія паэмы "Тарас на Парнасе" і "Энеіда навыварат". Максім Горкі высока ацаніў творы маладых Янкі Купалы і Якуба Коласа. Варта згадаць ліст нашага песняра да расійскай пісьменніцы Марыі Шкапскай, датаваны лютым 1924 года: "Я з прыемнасцю даведаўся, што Вы цікавіцеся нашай беларускай літаратурай і нават пераклалі некалькі маіх вершаў на рускую мову. Пасылаю Вам дзве свае кнігі — зборнік невялікіх вершаў "Водгулле" і сваю паэму "Новая зямля".

Займаўся беларускай літаратурай і вядомы паэт ды перакладчык Іван Белавусаў. Ён падрыхтаваў і рэдагаваў зборнік вершаў Янкі Купалы, перакладзеных расійскімі паэтамі, ды намерваўся выдаць таксама і падобную кніжку твораў Якуба Коласа. У снежні 1926 года адбылося асабістае знаёмства аўтара "Новай зямлі" з Іванам Белавусавым. Менавіта ён прапанаваў прыняць нашага песняра ў "Общество любителей российской словесности". І ў 1927 годзе Якуб Колас стаў сябрам гэтага таварыства.

Нельга не ўлічваць такога ганаровага прызнання таленту і значнасці нашага народнага песняра дзеля папулярызацыі творчасці Якуба Коласа ў Расіі. І сведчаннем можа стаць гісторыя з перакладам паэмы "Новая зямля" Сяргеем Гарадзецкім, знакамітым паэтам і перакладчыкам. Ён пачаў працаваць над "Новай зямлёй" у 1932 годзе. Нагодай гэтаму, верагодна, стаў Тыдзень беларускай літаратуры ў Маскве.

Першага сакавіка наступнага года Якуб Колас у лісце да яго пытаў: "Як прасоўваецца праца з перакладам "Новай зямлі"? Я ўсё чакаў ад Вас ліста і прыкладзеных да яго перакладзеных Вамі раздзелаў з паэмы". Некалькімі радкамі ніжэй Якуб Колас згадаў і пра аб'ём перакладу — "першапачатковы".

"Новая зямля", відаць, чыталася (і разумелася) перакладчыкам (ды не адным ім) не так і лёгка. Праз некалькі дзён пасля згаданага ліста Якуб Колас тлумачыць С. Гарадзецкаму некаторыя беларускія словы (судзіна, паўасьміна, збожжа). Гэтым разам ён выказвае сваё меркаванне пра аб'ём перакладу: "Вядома ж, даводзіцца шкадаваць, што Вы як перакладчык, а я як аўтар пастаўленыя перад фактам "урезок и кастрации". Ваша зычлівае абяцанне ў будучым зрабіць поўны пераклад паэмы ў значнай меры кампенсуе маё шкадаванне з нагоды скарачэння паэмы для першага блізкага выдання". Там жа Якуб Колас дазволіў С. Гарадзецкаму рабіць скарачэнні ўнутры раздзелаў.

То, відаць, цягам часу планаванае поўнае выданне "Новай зямлі" замянілі скарочаным. Але на гэтым не скончыліся нягоды з перакладам і выданнем твора на расійскай мове. У красавіку Якуб Колас зноў вымушаны напісаць С. Гарадзецкаму: "Ужо, здаецца, месяц таму Вы абяцалі мне прыслаць зроблены Вамі пераклад маёй паэмы. Дарэчы, Вы пісалі тады, што выкананую працу перашляце мне дзянькі праз тры. Але з таго часу мінула шмат дзён, і ліста ад Вас я не атрымаў... Паведаміце мне, у якім стане знаходзіцца пераклад і якія наогул магчымасці выдання паэмы".

**Здзіслаў СІЦЬКА.**

*(Працяг будзе.)*

**Культура мовы**

**Павал СЦЯЦКО**

# Дэкларацыйны

Паводле актыўнай мадэлі "поўная аснова іншамоўнага назоўніка на -цыя (-цый-а) плюс суфікс -н-" утварылася ў беларускай мове шмат аднаструктурных прыметнікаў: дэкларацыя — **дэкларацыйны**, кампіляцыя — **кампіляцыйны**, асіміляцыя — **асіміляцыйны,** дысіміляцыя — **дысіміляцыйны**, ілюстрацыя — **ілюстрацыйны**, меліярацыя — **меліярацыйны** і інш.

На жаль, нашыя слоўнікі побач з такімі натуральнымі ўтварэннямі падаюць і нічым невытлумачальныя штучныя формы на *-атыўны*. Гэтая ненатуральнасць іх відаць нават з самога тлумачэння значэння гэтых формаў, якія семантызуюцца (тлумачацца) праз словы на *-цыя*. Вось некалькі прыкладаў з таго самага "Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы": "*Дэкларатыўны, -ая, -ае.* Які мае *форму дэкларацыі..."* Параўнаем*:* "**Дэкларацыйны... у форме дэкларацыі**" (т. 2, Мн., 1978, с. 233). "*Кампілятыўны*, -ая, ае. Заснаваны на кампіляцыі, які з'яўляецца кампіляцыяй" (т. 2, с. 606). Дык чаму не **кампіляцыйны**, калі "заснаваны на **кампіляцыі**", "з'яўляецца **кампіляцыяй**." Адкуль такое ўтварэнне — *кампілятыўны* — ад базавага **кампіляцыя**? Або: "*Камунікатыўны*, -ая, ае. Які мае дачыненне да *камунікацыі*" (т. 2, с. 608).

Гэтыя штучныя для беларускай мовы формы разам з тлумачэннем іх значэння перапісаны з расійскіх слоўнікаў. Пра гэта сведчаць амаль даслоўныя супадзенні тэкстаў у згаданых беларускіх і расійскіх тлумачальных слоўніках.

Пра штучнасць формаў на *-атыўны* сведчыць і наступнае: розныя слоўнікі неаднастайна фіксуюць іх. Так, у "Тлумачальным слоўніку беларускай мовы" бачым: "Дэкларацыйнасць. Уласцівасць дэкларацыйнага" (т. 2, с. 233), але няма ў ім слова "дэкларатыўнасць". А ў "Слоўніку іншамоўных слоў" А. М. Булыкі (с. 103), наадварот, падаецца "дэкларатыўнасць", але няма ўтварэння "дэкларацыйнасць".

У "Тлумачальным слоўніку беларускай мовы" (т. 1, 1977, с. 218) падаецца: "Акумулятыўны, -ая, -ае. Які мае адносіны да акумуляцыі." Але няма ў ім натуральнага акумуляцыйны. А вось у "Слоўніку іншамоўных слоў" А. М. Булыкі (с. 17) бачым натуральную форму "акумуляцыйны" як утварэнне ад акумуляцыя."

Усё гэта паказвае на недасканаласць, кампіляцыйнасць нашых лексікаграфічных даведнікаў, якія дублююць расійскія слоўнікі. Падаючы дзве формы — натуральнае ўтварэнне на **-ацыйны** (з суфіксам -н-) і штучную форму на *-атыўны*, нашыя слоўнікі, як відаць, імкнуліся гэткім спосабам адрэагаваць на дзве асобныя расійскія формы, як: ассимилятивный — асімілятыўны і ассимиляционный — асіміляцыйны.

Але ж ці так мусова адной мове (беларускай) дубляваць іншую мову (расійскую). Кожная ж мова мае свае законы. І складальнікам слоўнікаў іх трэба трымацца. Дарэчы, А. М. Булыка ў "Слоўніку іншамоўных слоў" не падае штучнай формы *асімілятыўны*, а толькі *асіміляцыйны* (с. 38). Але, на жаль, бачым тут *дысімілятыўны* — у канцы артыкула "Дысіміляцыя" (с. 96). Дык як растлумачыць яго ўтварэнне ад базавага *дысіміляцыя*? Аўтар падае ілюстрацыю: "Дысіміляцыя галосных гукаў". Адсюль натуральнае "дысіміляцыйныя гукі" (а не дысімілятыўныя).

Найноўшыя даведнікі, створаныя пад час адраджэння нашае нацыянальнае культуры і мовы ў незалежнай дзяржаве Рэспубліцы Беларусь, трымаюцца беларускіх заканамернасцяў.

І ў беларускай частцы трохмоўнага лінгвістычнага слоўніка, выдадзенага ў Беластоку ў 1994 г. кафедрай усходнеславянскай філалогіі Беластоцкай філіі Варшаўскага універсітэта, — Słownik terminologii lingwistycznej (białorusko-rosyjsko-polski i polsko-rosyjsko-białoruski) — чытаем: "яканне *асіміляцыйнае* (яканье ассимилятивное, с. 86), яканне *дысіміляцыйнае* (яканье диссимилятивное, с. 110). Гэтыя тэрміны — "асіміляцыйнае яканне", "дысіміляцыйнае яканне" — натуральныя, заканамерныя, дакладна называюць адзнакі фанетычных з'яваў, варункам якіх з'яўляецца асіміляцыя і дысіміляцыя.

Акадэмічныя перакладныя слоўнікі 1993 — 1994 года ўжо больш фіксуюць заканамерных, натуральных для беларускай мовы ўтварэнняў на *-ацыйны* як адпаведнікаў да двух словаў расійскай часткі: 1) на *-ативный* і 2) на *-ационный*. Прыкладам, у "Русско-белорусском словаре" 1993 года (т. 1, с. 573) чытаем: "*Интегративный* в разн. знач. *інтэграцыйны*; *интеграционный* в разн. знач. *інтэграцыйны*". Або: "*Мелиоративный — меліярацыйны; мелиорационный — меліярацыйны*" (т. 2, с. 44).

І іншым словам расійскай мовы на *-ативный* у беларускай частцы гэтага слоўніка адпавядаюць заканамерныя ўтварэнні ад назоўнікаў на *-цыя* з суфіксам *-н-*: "Иллюстративный — *ілюстрацыйны* (т. 1, с. 564), "спекулятивный в разн. знач. *спекуляцыйны;* спекулятивная сделка — *спекуляцыйная* здзелка; спекулятивная философия — *спекуляцыйная* філасофія" (т. 3, с. 426).

На жаль, наш перыядычны друк усё яшчэ парушае гэтую норму.

Дык ці не пара нам адмовіцца ад чужых формаў кшталтам *капілятыўны, асімілятыўны* і замацаваць беларускія ўтварэнні з суфіксам *-н-* (*ы*) — як адзіныя нармаваныя — *кампіляцыйны, асіміляцыйны...* Гэта спрыяла б выразнай матываванасці значэння вытворных словаў, дазволіла б пазбыцца нематываваных дублетаў, што дэзарыентуюць моўнікаў у разуменні семантыкі беларускіх утварэнняў з суфіксам -н-. Апрача таго, гэта кансалідавала б, стабілізавала б літаратурную норму.

